# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
17 мая 2019 года №20 (1255) 18+





старонка 5

Ганна Кавальская і Цімафей Забрамскі падчас фотасесіі. Фота Васіля КАШКЕЛЯ.

## Калекцыю беларускіх дзіцячых строяў 19 стагоддзя стварылі ў смаргонскім садку







## «Таня, прабач. Я больш так не магу. Мае даўгі аддаваць не трэба» Гісторыя сям'і, дзе муж застрэліўся з-за крэдытаў

старонкі 20-21





## Якія заробкі і вакансіі прапануюць у рэгіёне

старонка 8

ISSN 1991–7155
19020
9 771991 715006

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Настаўнікі з рэгіёна – пераможцы рэспубліканскага фэсту педагагічных ідэй

МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ

Рэспубліканскі фестываль «Прызванне – педагог» зладзілі ў Гродне 10 і 11 мая. Сярод пераможцаў фестывалю – настаўнікі з Мядзельшчыны і Маладзечна. Каманда настаўнікаў Міншчыны заняла другое месца. Кіраваў камандай **Васіль Маліноўскі** – настаўнік рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №14 горада Маладзечна, сябар абласнога клуба педагагічных работнікаў «Флагман». Таксама ў склад каманды Міншчыны ўваходзіў **Павел Грын** – настаўнік хіміі Крывіцкага-вучэбна-педагагічнага комплекса дзіцячы сад-сярэдняя школа, што на Мядзельшчыне. Усяго ў фестывалі-конкурсе ўдзельнічала каля 170 педагогаў з Беларусі і Расіі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Старшыня Вілейскага райвыканкама правядзе прамую лінію

ВІЛЕЙКА

18 мая ад 9:00 да 12:00 **Алег Бегунец** адкажа на пытанні жыхароў Вілейшчыны.

Тэлефон прамой лініі – **8 (01771) 5-52-41.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Атрымалі дыплом на фестывалі «Легенды Паднябеснай»

МАЛАДЗЕЧНА

На пачатку мая ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце правялі першы рэспубліканскі фестываль-конкурс «Легенды Паднябеснай».

Навучэнак 8 «А» класа маладзечанскай гімназіі №10 **Веру Улізьку**, **Яну Дараховіч** і **Ганну Казак** узнагародзілі дыпломам другой ступені.

Дзяўчаты выканалі песню «Суперстар» на кітайскай мове.

**Аддзел інфармацыі.**

## Актывісты ўсталявалі інфармацыйны стэнд у Даўгінаве

ВІЛЕЙКА

Гэта 12 стэнд, які ўсталявалі сябры вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага ў Вілейскім раёне.

На стэндзе – гістарычная інфармацыя пра Даўгінава, знакамітых ураджэнцаў і жыхароў гэтай мясціны.

Падобныя стэнды, дзякуючы суполцы ТАП імя Аляксея Лужынскага, стаяць у Батурыне, Латыгалі, Касцяневічах і іншых вёсках на Вілейшчыне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ад 13 мая забаранілі паляваць на некаторых птушак

Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што 12 мая закончыўся вясновы сезон палявання на гусь белалобую, гусь-гуменніцу, гусь шэрую, казарку канадскую, самцоў крыжанкі, свіязі, гогаля, шыраканоскі, чэрнеці чубатай, чэрнеці чырвонагаловай, чырка-траскунка, чырка-свістунка, качкі шэрай, вальдшнэпа.

Забарона на здабычу крыжанкі, свіязі, гогаля, шыраканоскі, чэрнеці чырвонагаловай, чэрнеці чубатай, чырка-траскунка, чырка-свістунка, качкі шэрай, вальдшнэпа будзе дзейнічаць ад 13 мая да 9 жніўня ўключна, а на здабычу гусака белалобага, гусі-гуменніцы, гусі шэрай, казаркі канадскай – ад 13 мая да 20 верасня ўключна.

Паляванне на названыя віды птушак у забаронены час можа прывесці да адміністрацыйнай альбо крымінальнай адказнасці.

Акрамя таго, парушальніку прыйдзецца пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю, і кошт незаконна здабытай прадукцыі.

Мядзельская міжраённая інспекцыя сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі пастаянна праводзіць мерапрыемствы па выяўленні браканьерства.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце на нумар **8-01797- 50-7-40** альбо на тэлефон давеđру Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **8-017-39-00000**, або на тэлефон **102.**

Інфармацыю правераць.

**Раман ЛЕСІН,**
**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету.**



Фота з асабістага архіва Ларысы ЯКАВЮК.

Адна віляйчанка прыйшла на могілкі са сваімі гаршчочкамі. Вольга Дуровіч (справа) дапамагла ёй пасадзіць кветкі.

# На вілейскіх гарадскіх могілках бясплатна раздавалі жывыя кветкі

ВІЛЕЙКА

**Такую ідэю даўно марыла ўвасобіць жыхарка Вілейкі Ларыса Якавюк. Сёлета гэта атрымалася.**

– Мы, эколагі, ужо некалькі год выступаем супраць пластыку. Звычайна расказваем пра шкоду пластыкавых кветак для прыроды. А сёлета вырашылі дзейнічаць, – дзеліцца Ларыса Якавюк.

Натхняльнікам Ларысы быў **Сяргей Юшкевіч** з Цэнтра экалагічных рашэнняў. Менавіта ён расказаў, як летась у Мінскім раёне дзяўчына ўжо рабіла падобную акцыю на могілках.

### Кветкі ўзялі з аранжарэі і ўласнага агарода

Ларыса набыла расаду ў аранжарэі. Далучылася сяброўка, якая прынесла дзясятак кусцікаў рознакаляровай прымулы і цюльпаны з уласнага агарода.

7 мая жанчыны размясцілі столік з кветкамі каля гарадскіх могілак у Вілейцы. Побач паставілі інфармацыйны стэнд. Але не столькі для інфармацыі, колькі для таго, каб прыцягнуць увагу.

### Да ўсяго бясплатнага людзі ставяцца насцярожана

– Некаторыя праходзілі міма. Некаторыя падыходзілі, але баязліва. Думалі, што мы прадаём кветкі. Большасць людзей у нас вельмі насцярожана ставяцца да ўсяго бясплатнага. Асабліва ўразіла маладая жанчына, якая прынесла з сабой гаршчочкі з зямлёй. Расказала, што прачытала пра акцыю ў сацсетках, і спецыяльна прыйшла, каб пасадзіць кветкі на могілках, – расказвае Ларыса.

Улічваючы, што ў гэты дзень людзі прыходзяць на могілкі ў парадным адзенні, арганізатары ўзялі з сабой лапату і пальчаткі, каб дапамагчы ахвотным пасадзіць кветкі.

Многія казалі, што кветкі садзіць няма дзе, бо на магілах усё абкладзена пліткай. Тады ім прапаноўвалі цюльпаны.

### Ва ўсіх пластыкавыя, а я не пастаўлю? Як гэта?

– Прыемна, што сустракалі людзей, якія самі прыйшлі з жывымі кветкамі. Асабліва запомніўся мужчына, што ішоў на могілкі з вялізным букетам цюльпанаў, дзеліцца Ларыса.

Хоць кветкі раздавалі бясплатна, некаторыя людзі давалі за іх сімвалічную плату. Адзначалі, што актывісткі робяць вельмі добрую справу.

Адмоўных рэакцый ад наведнікаў могілак не было. Але часам можна было пачуць:

– Як гэта? Ва ўсіх пластыкавыя кветкі стаяць, а я не пастаўлю? Вось каб прадаваць забаранілі...

**Сёлетняй акцыяй Ларыса задаволеная. Плануе абавязкова паўтарыць у наступным годзе больш прадумана і арганізавана.**

– Часта ў душы людзі самі супраць пластыкавых кветак. Але думаюць пра тое, што раз большасць так робіць, то трэба і мне. У выніку проста задавальняюць нейкія свае жаданні. Бо памерлым дакладна гэтыя кветкі непатрэбныя, – падсумавала Ларыса.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Звесткі пра вілейскую турму ўвойдуць у кнігу

ВІЛЕЙКА

**Днямі гісторык і пісьменнік Ігар Мельнікаў наведаў Вілейку.**

Тут ён правёў экскурсію па месцах, звязаных са сталінскімі рэпрэсіямі.

З гэтай жа мэтай турысты з'ездзілі ў Чэрвень.

– Мы наведалі месцы, звязаныя з гісторыяй сталінскіх рэпрэсій. Турмы НКВД, месцы жудасных расстрэлаў вязняў савецкіх турмаў у чэрвені 1941 года, – кажа гісторык.

Падарожжа стала навуковай экспедыцыяй у межах падрыхтоўкі да выдання кнігі да 80-й гадавіны з пачатку Другой сусветнай.

Назва будучай кнігі – «Верасень 1939-га. Магілы неаб'яўленай вайны».

Нагадаем, што да нядаўняга часу ў будынку былой турмы месціўся анкадыспансер.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Якія цэны цяпер у Вільні

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЬНЯ

**У папярэднім нумары мы разбіраліся ў тым, колькі каштуюць цяпер прадукты ў Вільні, і параўноўвалі іх з коштамі маладзечанскіх.**



У Вільні можна скарыстацца роварам. Паслуга дазваляе ўзяць яго з аднаго пункта арэнды і пакінуць на той стаянцы, дзе будзе зручна.

Працягваем расказваць пра цэны ў горадзе, пералічыўшы іх на нашы грошы.

Мы штомесяц аплачваем камунальныя паслугі, мабільную сувязь, ездзім на таксі. Каб даведацца, колькі гэта каштуе ў Вільні, карэспандэнт «РГ» пагутарыла з ураджэнцам Беларусі, які жыве ў Літве, **Кірылам Атаманчыкам**. Ён са Жлобіна, у Вільні працуе дырэктарам агенцтва адпачынку і забаў.

Кажа, мінімальны заробак у Вільні – 1300 рублёў да аднімання падаткаў. Рэальны – трохі меншы за тысячу. Сярэдні – каля 1600. Людзі сталага ўзросту атрымліваюць 600-700 рублёў пенсіі.

### Дамашніх тэлефонаў даўно не сустракаў

У субяседніка аднапакаёвая кватэра, ацяпленне не цэнтральнае, таму яго можна рэгуляваць. Суразмоўца дзеліцца, што такіх дамоў у Вільні пакуль меншасць. Хаця новыя дамы цяпер будуць з рэгуляваным ацяпленнем.

Электрычнасць каштуе каля 28 капеек за кілават, а вось газу няма. Халодная вада – прыкладна чатыры рублі за кубаметр, гарачая – трохі больш за 11 рублёў.

На мабільную сувязь у Атаманчыка сыходзіць 18-23 рублі за месяц. Тарыф прадугледжвае безлімітныя званкі на любыя сеткі па Літве, ёсць восем гігабайтаў мабільнага інтэрнэту. А вось дамашніх тэлефонаў субяседнік даўно ні ў кога не сустракаў.

### Таксісты не заўжды даюць білет

У горадзе папулярныя электрычныя самакаты. На іх ездзяць усе, ад моладзі да сталых людзей. Мінута катання – каля 30 капеек.

Можна арандаваць і веласіпед. У тэрмінале на стаянцы ровараў набыць квіток, які дазволіць карыстацца веласіпедам на працягу трох дзён. Кошт такога білета – шэсць рублёў 80 капеек. Першыя паўгадзіны паездкі бясплатныя, другія паўгадзіны – 90 капеек, трэція – 3 рублі 30 капеек, усе наступныя – восем рублёў.

Вырашылі арандаваць аўтамабіль? Мінута на Volkswagen Golf абыдзецца ў 42 капейкі, гадзіна – у 11 рублёў, суткі – амаль у 50. За дзень катання на Toyota Yaris заплаціце 35 рублёў.

Каля двух гадоў таму Атаманчык скончыў аўташколу. За навучанне і экзамен заплаціў каля 1600 рублёў.

Ужо ёсць свая машына? Майце на ўвазе, у Вільні цэны на бензін не стабільныя. На 27 красавіка былі прыкладна 2 рублі 60 капеек за літр. А яшчэ тут не прадаюць нізкаякаснае паліва.

Таксі па мабільным дадатку каштуе шэсцьсем рублёў за прыкладна 10 хвілін. «Традыцыйна» заказваць таксі па тэлефоне даражэй. Як і ў нас, таксісты не заўсёды даюць білет.

Да ўвагі пешаходаў: машыны ў Вільні прапускаюць пешаходаў на пераходах, а вось апошнім лічыцца непрыстойным не прапускаць на іх аўтобусы. Хаця ў правілах дарожнага руху гэта і не прапісанае.

А яшчэ трэба добра падумаць перад паездкай у Вільню курыльшчыкам: магчыма, прыйдзецца кінуць курыць. Па-першае, цыгарэты тут каштуюць у сярэднім 10 рублёў. Самыя танныя, што знайшлі, – 5 рублёў 40 капеек. Для параўнання: запальнічка каштуе ўсяго 70 капеек. Па-другое, у Літву не прапускаюць больш за два пачка. Гэта не тычыцца паветранага транспарту. І нават вечарам на вуліцах Вільні за 15 хвілін можна не сустрэць ніводнага чалавека, які курыць.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**20** кг гароднiны і садавіны



дазволена ўвозіць у Літву без афармлення фітасанітарных дакументаў.

**Паводле vilnia-by.com.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.05 | 16.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1090 | **2.0930** |
| Еўра | 2.3620 | **2.3459** |
| Злоты, 10 | 5.5243 | **5.4389** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2426 | **3.2297** |
| Грыўня, 100 | 7.9735 | **7.9423** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **4.05** | **15.05** |
| Еўра | 2.3200/2.3750 | **2.3350/2.3610** |
| Долар ЗША | 2.0800/2.1300 | **2.0800/2.1020** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 30.04 | 15.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 21,88 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,65 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **2,49** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **2,20** (маладая) |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **1,50** (маладыя) |
| Капуста, 1 кг | 2,20 | **1,89** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,90 | **2,70** |
| Морква, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **8,69** |
| Радыс, 1 кг | 2,80 | **1,99** |
| Салата, 100 г | 1,00 | **1,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,85** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **6,40** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | – | **8,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,30** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| Клубніцы, 1 кг | 10,00 | **11,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **3,40** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 22,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## З-за бяздзейнасці дырэктара прадпрыемства сапсаваліся дальныя робаты

**СМАРГОНЬ**

Падчас праверкі прадпрыемства «Саўгас Смаргонскі» работнікі Лідскай міжраённай фінансавай міліцыі і Лідскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю заўважылі безгаспадарлівасць і нанесеную значную шкоду прадпрыемству з-за бяздзейнасці службовых асоб. Пра гэта паведамілі ў Камітэце дзяржкантролю.

У 2008-2009 гадах тут пабудавалі малочнатаварную ферму на тысячу галоў. На праект накіравалі больш за 2,4 мільёна рублёў крэдытных рэсурсаў і 260 тысяч рублёў з рэспубліканскага бюджэту. У 2009 годзе малочнатаварны комплекс стаў працаваць.

Аднак праз некалькі гадоў дальныя робаты сталі адзін за адным выходзіць са строю. У 2013-2016 гадах кіраўнік саўгаса пры папушчальніцтве службовых асоб райвыканкама не забяспечыў эфектыўную эксплуатацыю і тэхнічнае абслугоўванне малочнатаварнага комплексу. Робатаў так і не адрамантавалі. З-за гэтага ў далейшым іх ужо немагчыма было выкарыстоўваць.

У выніку прадпрыемству нанесеныя страты ў асабліва буйным памеры.

Лідскі міжрайаддзел упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці распачаў крымінальную справу па трэцяй частцы артыкула «Бяздзейнасць службовай асобы, што пацягнула цяжкія наступствы».

**Паводле БелТА.**

## Прапаршчык-памежнік здзейсніў суіцыд

**СМАРГОНЬ**

33-гадовы ваеннаслужачы Смаргонскай памежнай групы здзейсніў суіцыд, прычыны і абставіны трагедыі высвятляе Следчы камітэт. Пра гэта паведамілі ў Дзяржпагранкамітэце.

Труп вайскоўца-кантрактніка з прыкметамі суіцыду 12 мая каля 6:30 знайшлі сваякі па месцы пражывання бацькоў загінулага. Расследаваннем здарэння займаецца Следчы камітэт Беларусі, які ўстанаўлівае прычыны і абставіны трагедыі.

Вядома, што суіцыд не звязаны са службовай дзейнасцю вайскоўца. Старшы прапаршчык служыў у адным з падраздзяленняў упраўлення Смаргонскай памежнай групы.

Па службе характарызаваўся станоўча.

Па словах Юрыя, стрыечнага брата загінулага, перад смерцю мужчына пакінуў запіску.

«Люблю жонку, дзяцей. Гэта нейкія сурокі. Воля [жонка загінулага. – «Радыё Свабода»], прадавай кватэру і з'язджай з гэтага горада. Мама, тата, дзякуй за ўсё».

Сям'я загінулага, па словах брата, была добрай, заможнай. Мікалай алкаголем не злоўжываў. Яны нядаўна набылі кватэру ў Смаргоні. Жонка таксама служыць у Смаргонскай памежнай групе.

**Паводле БелТА і «Радыё Свабода».**

## Машына збіла васьмікласніка

**АСТРАВЕЦ**

Здарэнне адбылося 11 мая ў Астраўцы.

Хлопчык ішоў са школы па ўзбочыне вуліцы Маркава. Убачыў маму, якая ехала насустрач на ровары.

Школьнік не ўпэўніўся ў бяспецы і пайшоў да мамы. У кіроўцы «Дэу», што ехаў у спадарожным накірунку, не атрымалася пазбегнуць сутыкнення.

Хлопчык з капота машыны зваліўся на дарогу. З пераломам яго забралі ў бальніцу.

Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.

## З-за кароткага замыкання разеткі загарэлася крама

**СМАРГОНЬ**

10 мая ў 8:34 раніцы ў РАНС паступіла паведамленне аб пажары крамы ў аграгарадку Вішнева.

У абласным упраўленні МНС паведамляюць, што ў выніку пажару пашкоджаны стэлаж з таварам на плошчы 1,5 кв.м, закураны сцены, столь і маёмасць гандлёвай залы.

Мяркуюць, прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання (кароткае замыканне разеткі).

У гэты ж дзень у 22:52 паведамілі пра пажар у гаспадарчай пабудове на тэрыторыі прыватнага домаўладання ў вёсцы Пастарыні. У выніку знішчаны дах, перакрыцце і маёмасць, пашкоджаныя сцены.

Прычына пажару высвятляецца. Магчыма, пажар пачаўся з-за неасцярожнага абыходжання гаспадара з агнём.

**Паводле сайта МНС.**

# У кватэру пенсіянеркі спрабаваў уварвацца мужчына ў масцы

**Паведамленне на 102 паступіла раніцай 10 мая. Жанчына паведаміла, што мужчына ў масцы спрабаваў увайсці ў яе кватэру, але ўцёк, калі ў яе атрымалася сарваць маску. У нападальніку жанчына пазнала свайго суседа.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

На месца здарэння выбылі кіраўніцтва Маладзечанскага РАУС, следча-аператыўная група, нарад супрацоўнікаў аддзела Дэпартамента аховы.

68-гадовая жанчына жыве ў шматкватэрным доме на чацвертым паверсе. Сусед – на першым.

У тую раніцу мужчына збіраўся зайсці да пенсіянеркі, каб папрасіць грошай. Але ўспомніўшы пра нядаўні інцыдэнт, калі ён доўгі час не аддаваў жанчыне шэсць рублёў, падумаў, што па-добраму наўрад ці ўдасца пагаварыць. Пазычыць яна не пагодзіцца, і таму, ідучы да суседкі, мужчына прыхапіў маску.

На пытанне «хто там» мужчына адказаў «я» – і жанчына ўжо па голасе пазнала суседа з першага паверха. Калі ж гаспадыня адчыніла дзверы, то ўбачыла мужчыну ў чорнай масцы.

Па словах пенсіянеркі, ён паспрабаваў увайсці ў кватэру, штурхнуў яе, а калі яна здолела сарваць маску, уцёк. Жанчына тут жа патэлефанавала ў міліцыю.

Аператыўнікі ўстанавілі, што мужчына замкнуўся ў сваёй кватэры, дзверы міліцыянерам не адчыняў. Каля дзвюх гадзін зламыснік быў блакаваны нарадам аддзела Дэпартамента аховы.

У работу ўключыліся супрацоўнікі АМАПа. Сілавікі штурмам узялі кватэру дэбашыра. Яго затрымалі і даставілі ў Маладзечанскі РАУС для далейшых разбораў.

Па словах самога фіґуранта, ён хацеў трапіць у кватэру суседкі, зняць маску і папрасіць грошай, думаў, інакш яго не пусціць. Пасля няўдалага візіту вярнуўся дадому і лёг спаць.

Калі ўбачыў за вокнамі супрацоўнікаў праваахоўных органаў, паспрабаваў пазбавіцца ад галоўнага доказу – змыць маску ва ўнітаз.

Па дадзеным факце праводзіцца праверка, дзеянням затрыманага будзе дадзеная прававая ацэнка.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**




Фота УУС Мінаблвыканкама.

Мужчыну затрымлівае АМАП.

## Падазраюць, што грузчык скраў грошы з сейфа ў краме, дзе працаваў

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне ўзбудзілі крымінальную справу аб крадзяжы з сейфа ў краме.

Крадзеж заўважыла служба бяспекі крамы і напісала заяву ў міліцыю.

Падчас агляду месца здарэння ўстанавілі, што трапіць у дапаможнае памяшканне, дзе стаяў сейф, можна было без асаблівых высілкаў.

Пры гэтым ключ ляжаў у скрыні стала, распавяла карэспандэнту прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Падазраваным па крымінальнай справе прызналі раней судзімага за аналагічнае злачынства 34-гадовага жыхара Маладзечна.

Па дадзеных следства, мужчына працаваў грузчыкам у гэтай краме і бачыў, дзе ляжыць ключ. Калі ў памяшканні нікога не было, ён адкрыў сейф і браў каля ста рублёў. Такім чынам, на працягу дзесяці дзён ён выкраў 1240 рублёў.

Да матэрыялаў следства далучаны запісы камер відэаназірання і іншыя рэчавыя доказы. Падазраваны даў прызнальныя паказанні і на пачатковай стадыі расследавання кампенсаваў шкоду.

Дзеянні мужчыны кваліфікаваныя па ч. 2 арт. 205 Крымінальнага кодэкса (крадзеж, учынены паўторна).

Кіраўніцтва крамы павінна будзе ліквідаваць парушэнні, што паспрыялі злачынству.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За адну ноч мужчына абакраў тры аўтамабілі ў Чысці і адзін у Красным

Як паведамілі МЛЫН.BY ва УУС Мінаблвыканкама, першым у міліцыю звярнуўся 51-гадовы ўладальнік ВАЗа. Ён паведаміў, што ноччу невядомы пранік у салон аўтамабіля і скраў акумулятар, магнітолу, люстэрка, некаторыя асабістыя рэчы, антэну з даху. Матэрыяльныя страты ацанілі ў 270 рублёў. Машына тады «начавала» на дваровай стаянцы, якая не ахоўвалася.

Наступная заява была падобная. На суседняй вуліцы мужчына разбіў шкло ў пярэдніх левых дзвярах, залез у салон «Хёндэ», які належаў 47-гадовай мясцовай жыхарцы, і скраў відэарэгістратар, GPS-навігатар, магнітолу, зарадныя прылады, люстэрка і антэну з даху. Шкода склала 2780 рублёў.

З астатніх аўто мужчына забіраў акумулятары і іншыя рэчы.

Так «зарабляў» жыхар Краснага 1982 года нараджэння. Ён працаваў станочнікам на адным з прадпрыемстваў у 25 кіламетрах ад Мінска. Фігурант раней ужо быў неадназова судзімы за крадзяжы і ўгон транспарту.

Падазраванага затрымалі па месцы жыхарства супрацоўнікі крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС і Мінскага РУУС сумесна з байцамі АМАП. У ходзеператрусу аператыўнікі знайшлі ў яго большую частку скрадзенага. На ўчастку дома сышчыкі знайшлі кузаў і рухавік ад «Жыгулёў». Устанавілі, што гэта дэталі ад скрадзенай яшчэ ў ліпені мінулага года легкавушкі. У фігуранта таксама канфіскавалі некалькі дробнакаліберных патронаў.

Акрамя таго, міліцыянеры ўстанавілі дачыненне падазраванага да дачнага крадзяжу ў вёсцы Касцюшкі Маладзечанскага раёна. З падворка ён забраў дарагое электраабсталяванне і інструмент на суму без малога 1500 рублёў.

Распачалі крымінальныя справы па артыкуле «Крадзеж». Па словах мужчыны, «штурхаў» яго на крадзеж недахоп грошай.

**Паводле Mlyn.by.**

# Як выхаванцы садка стваралі калекцыю старадаўніх дзіцячых строяў

СМАРГОНЬ

**Усё пачалося з лялек. Працуючы ў беларускамоўнай групе дзіцячага сада, вырашыла апрануць іх у беларускае нацыянальнае адзенне.**




Дашкольнікі з задавальненнем пазіравалі ў старадаўніх смаргонскіх строях.

Бо вельмі часта на занятках ды і па-за межамі іх знаёміла выхаванцаў з традыцыямі, звычаямі, побытам старажытных беларусаў, далучала да культуры і гісторыі продкаў.

І тут ніяк не абыходзілася без пэўных выяў ці лялечных персанажаў беларусаў і беларусачак. Хутка ў нашай групе з'явіліся прыгожа апранутыя маці з немаўлём, дзяўчынкі, хлопчыкі, дзяўчаты ў святочным і паўсядзённым адзенні.

Лялькі карысталіся вялікім попытам у дзяцей: яны разглядалі іх, шмат пыталіся пра адзенне, побыт, прыдумвалі свае гульні з удзелам лялек. Я як выхавальнік цешылася, што ў слоўнікавы запас маіх выхаванцаў уваходзяць назвы элементаў беларускага адзення, прадметаў побыту. А іх светапогляд пашыраецца ўяўленнямі пра жыццё продкаў-беларусаў.

З цягам часу ўзнікла ідэя пашыць беларускае нацыянальнае адзенне і для дзяцей, але з улікам рэгіянальных асаблівасцяў. Так мы з выхаванцамі стварылі праект «Дзіцячыя строі Смаргонскай зямлі 19 стагоддзя».

### Ад задумы да стварэння

Спачатку я доўгі час збірала інфармацыю, звярталася па дапамогу ў розныя дзяржаўныя ўстановы, да даследчыкаў-краязнаўцаў, этнографаў і аматараў. Вывучала матэрыялы на патрэбную тэму ў кнігах і інтэрнэт-крыніцах.

Аказалася зусім няпроста: слынная смаргонская зямля была мала даследаваная ў плане строяў. Гістарычныя падзеі, якія адбываліся на ёй на працягу многіх стагоддзяў, пэўнае геаграфічнае становішча не далі магчымасці захаваць гэты пласт матэрыяльнай культуры. Акрамя таго, запісы, дакументы, якія б маглі дапамагчы, да пэўнага часу ўвогуле не вяліся. А тое, што захавалася, амаль цалкам вывезлі ў прыватныя калекцыі Польшчы, Літвы, Расіі.

Вельмі дапамаглі сябры, знаёмыя, сем'і выхаванцаў, проста зацікаўленыя людзі, якія валодалі адпаведнай інфармацыяй па тэме маёй даследавання: студэнцкае этнаграфічнае таварыства з Мінска, этнаграфічны клуб «Кола» з Маладзечна, Смаргонскі гісторыка-краязнаўчы музей, майстар-рамеснік **Людміла Канаплёва**, музыка і арганізатар **Аляксей Крукоўскі**. Гэта толькі невялікі пералік тых арганізацый і людзей, якія мне дапамагалі.

Паступова вобразы строяў на аснове архіўных дакументаў, фотаздымкаў і асабістых аповедаў краязнаўцаў былі створаныя. Потым распрацавалі эскізы, набылі патрэбныя тканіну і фурнітуру. І пачалося стварэнне самой калекцыі.

### Як працавалі маленькія мадэлі

І хлопчыкі, і дзяўчынкі з зацікаўленасцю і задавальненнем стваралі рэгіянальныя строі і іх элементы з паперы, пластыліну для сябе і сваіх мам, удзельнічалі ў шматлікіх прымерках.

Амаль усе дзеці ў групе хацелі быць мадэлямі. У іх вельмі змяніліся адносіны да беларускіх народных строяў. Павага, гонар, беражлівыя адносіны, усведамленне каштоўнасці і важнасці сталі часта прасочвацца ў размовах і паводзінах выхаванцаў.

Калі калекцыя была гатова, дзеці паехалі на фотасесію. Мне важна было, каб яны адчулі свой вобраз у блізкай да яго атмасферы. Для гэтай мэты нам вельмі добра падышоў этнаграфічны куток, які гасцінна нам адчыніла адміністрацыя смаргонскіх ясляў-сада №14.

Шмат радасных момантаў застанецца ў памяці маленькіх мадэляў ад фотасесіі: неверагоднае жаданне хутчэй апрануць строй, шчырае захапленне ўласным вобразам, бясконцыя кампліменты ў свой адрас, прыгожая абстаноўка, вясёлы настрой, праца з сапраўдным майстрам фотасправы, падтрымка бацькоў…



Маленькія мадэлі Кірыл Рабікаў і Ганна Коўшык.

### Правільна данесці да дзяцей вобразы іх продкаў

Магчыма, распрацаваныя намі дзіцячыя строі маленькіх беларусаў 19 стагоддзя не вельмі дасканалыя, патрабуюць яшчэ дапрацоўкі. Бо стваралія яны ў абмежаваны перыяд часу, мелі пэўны бюджэт і задачу.

Але галоўнае для мяне – гэта выклікаць цікавасць да тэмы. Бо з кожным годам каштоўнасць да ведаў аб сваёй малой радзіме ўзрастае.

Падчас сваёй працы педагогі пры афармленні розных стэндаў, дакументаў, дыдактычных матэрыялаў звяртаюцца да пошуку выяў, карцінак старажытных беларусаў. Патрэба ў дзіцячых нацыянальных касцюмах узнікае пры правядзенні свят, забаў.

Трэба правільна данесці да дзяцей вобразы старажытных беларусаў, іх аўтэнтычны знешні выгляд. А для гэтага трэба дакладна ведаць, як выглядала традыцыйнае беларускае народнае адзенне – строй, дзе кожная рэч мела сваё месца, значэнне, традыцыі, свой парадак апранання.

Але ж прайшло столькі часу, мадэльеры-дызайнеры ўвесь час удасканальваюць народныя строі, уносяць сучасныя модныя тэндэнцыі, свой погляд, улічваюць сцэнічную задачу, накіраванасць свят ці імпрэз, да якіх стварающца.

Таму адбылося значнае відазмяненне народных строяў. Тым больш, што яны ў розных этнічных рэгіёнах мелі сваю адметнасць.

Наш праект не толькі актуальны і каштоўны, але мае і пэўную практычную накіраванасць. Вынайдзеная інфармацыя, распрацаваныя метадычныя рэкамендацыі, графічныя і фотаматэрыялы дапамогуць сфарміраваць у будучага пакалення правільныя вобразы іх продкаў, паспрыяюць выхаванню любові і гонару за сваю малую радзіму.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальнік ясляў-сада №8**
**г. Смаргоні.**

# Пра парадак вяртання кантрольных (ідэнтыфікацыйных) знакаў для маркіроўкі абутку

Савет Міністраў 15 сакавіка прыняў пастанову №161 «Аб стварэнні нацыянальнай сістэмы маркіроўкі тавараў і рэалізацыі пілотнага праекта па маркіроўцы абутку сродкамі ідэнтыфікацыі». Гэтай пастановай ад 15 сакавіка адмяняецца абавязак суб'ектаў гаспадарання ажыццяўляць маркіроўку абутку кантрольнымі (ідэнтыфікацыйнымі) знакамі.

Улічваючы, што асобнымі суб'ектамі гаспадарання набытая значная колькасць кантрольных (ідэнтыфікацыйных) знакаў для маркіроўкі абутку, якія не будуць выкарыстаны да 15 красавіка 2019, паведамляем наступнае.

У адпаведнасці з пунктамі 17 і 18 Інструкцыі аб парадку ўліку, захоўвання, рэалізацыі, знішчэння і прызнання несапраўднымі кантрольных (ідэнтыфікацыйных) знакаў, зацверджанай пастановай МПЗ ад 9 жніўня 2011 года №32 суб'екты гаспадарання маюць права вярнуць кантрольныя (ідэнтыфікацыйныя) знакі ў РУП «Выдавецтва» Белбланкавыд не пазней за тры месяцы ад дня іх набыцця.

Нявыкарыстаныя кантрольныя (ідэнтыфікацыйныя) знакі вяртаюцца ў пакунку ў тым выглядзе, які кантрольныя (ідэнтыфікацыйныя) знакі і ўпакоўка мелі пры выдачы (без фізічных пашкоджанняў, парушэння цэласнасці упакоўкі), з захаваннем паслядоўнасці нумарацыі кантрольных (ідэнтыфікацыйных) знакаў. Пры парушэнні ўказанага патрабавання кантрольныя знакі лічацца пашкоджанымі і вяртанню не падлягаюць.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**



Фота забяспечанае Алесяй РАЗДЗЯЛОЎСКАЙ.

Алеся Раздзялоўская (у цэнтры) з дзяўчатамі-пераможцамі.

## У вілейскіх танцораў – тры першыя месцы і Гран-пры

ВІЛЕЙКА

Днямі вілейскі танцавальны калектыў «Фарсаж» пад кіраўніцтвам харэографа **Алесі Раздзялоўскай** вярнуўся з чацвертага адкрытага фестывалю «Вясёлка талентаў». У Вілейку прывезлі тры першыя месцы і Гран-пры.

– Гран-пры – наш самы галоўны сюрпрыз, – расказала карэспандэнту Алеся Раздзялоўская.

– Мы ўжо паехалі, а нам патэлефанавалі і сказалі, што, па рашэнні журы, мы адзіныя, хто атрымаў Гран-пры.

Так высока журы ацаніла нумар «Эйфарыя», што выконвала група старэйшых дзяўчынак.

– Прыемна яшчэ і тое, што на адной сцэне з нашым калектывам уж выступае мой вучань са сваёй камандай і таксама атрымоўвае прызавыя месцы, – падзялілася Алеся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Стала вядома, дзе можна будзе адпачываць і купацца сёлета

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Пералік месцаў для масавага адпачынку вызначылі 10 мая рашэннем №515 Вілейскага райвыканкама. Вядомыя пляжы і месцы для адпачынку і на Мядзельшчыне.

Вось гэты спіс:

• пляж «Сонечны» на Віліі
• сажалка ў вёсцы Асіпавічы
• гарадскі пляж на Вілейскім вадасховішчы
• Вілянін хутар
• Ніжні парк
• гарадскі парк
• урочышча Дубаўка

За купанне ў забароненых месцах чакае штраф да 76,5 рубля, паведамляюць у РАУС.

Як паведаміў начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**, на Мядзельшчыне дазволілі купацца на 11 пляжах. Вось яны:

Пляжы санаторыяў:
• «Нарачанскі бераг»
• «Нарач»
• «Нарачанка» (два пляжы)
• «Спадарожнік»
• «Белая Русь»
• «Сосны»
• «Журавачка»

Таксама пляжы
• Нацыянальнага парку «Нарачанскі»
• дзіцячага цэнтра «Зубраня»
• гарадскі ў Мядзеле.

Месцаў для адпачынку ля вады больш – іх разам з пералічанымі пляжамі 31.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Склад беспрацоўных па ўзроставых групах на канец 2018 года (чалавек)




**Згодна з дадзенымі aqm.by, самы вялікі працэнт беспрацоўных у Беларусі ў канцы 2018 года быў сярод мужчын і жанчын ад 45 да 49 гадоў.**

# Якія заробкі і вакансіі ёсць у рэгіёне

**Якія вакансіі прапаноўваюць у рэгіёне і якія грошы абяцаюць за працу, высвятляем на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**

### Маладзечна

Для ахвотных працаваць на Маладзечаншчыне за апошні тыдзень на сайце з'явілася каля 80 прапаноў. Некаторыя – зусім новыя. Іншыя вісяць ужо па некалькі месяцаў, але працадаўцы актуалізуюць іх, бо па-ранейшаму не знайшлі работнікаў.

У гімназію №3, Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання, на «Акдзімол» і «Вялес-Міт» патрэбныя прыбіральшчыцы. Ва ўстановах адукацыі заробак складае 330 рублёў, на прадпрыемствах – крыху больш за 400.

На «Белмастакераміку» ў Радашкавічы патрэбны кіроўца з катэгорыямі В і С. Заробак абяцаюць семсот рублёў. Туды ж запрашаюць і прадаўца. Плаціць будуць чатыры ста рублёў.

Шмат работнікаў запрашаюць на «Вялес-Міт» – электраманцёра, укладчыка-ўпакоўшчыка, апрацоўшчыка мясных туш, вытворцу кілбасных абалонак, падсобнага рабочага, засольшчыка скур, слесара. Заробкі розныя. Найменш прапануюць падсобніку – 400 рублёў. Найбольш таму, што будзе рабіць натуральныя абалонкі для кілбас – 800 рублёў.

За 330 рублёў шукаюць штампоўшчыка на «Энву».

У гімназію №3 запрашаюць настаўнікаў. Педагога-арганізатара возьмуць з сярэдняй педагагічнай адукацыяй. Будуць плаціць ад 400 рублёў. Патрэбны сюды і настаўнік пачатковых класаў з вышэйшай адукацыяй. Заробак – ад 450. Яшчэ педагогі патрэбныя ў садок №32. Музычны кіраўнік з заробкам 330. І выхавальнік з заробкам 350 рублёў.

У гаспадарку ў Вілдзеўшчыне шукаюць інжынера па ахове працы і інжынера электрыка. Заробкі – ад 414 і 420 адпаведна.

### Вілейка і Мядзел прапануюць па дзесяць вакансій

Па Вілейцы на сайце вакансій значна менш – дзесяць. На пошту шукаюць інжынера-электроніка за 550, паштальёна за 330 і аператара сувязі за 356. Вышэйшая адукацыя патрэбная толькі інжынеру.

На «Буддэталі» возьмуць сартавальнікаў і станочнікаў з заробкам ад 450. Больш прапануюць аператару на аўтаматычных і паўаўтаматычных лініях – ад 600.

Доктар бактэрыёлаг патрэбны ў Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Заробак – ад 500 рублёў.

Дзесяць вакансій – па Мядзельшчыне. Сярод іх прыбіральшчык у краму за 350 рублёў, галоўны бухгалтар на сельгаспрадпрыемства за 368. Самыя высокія заробкі – ад 700 рублёў – прапануюць галоўнаму аграному і галоўнаму заатэхніку на сельгаспрадпрыемстве ў Свіры.

### У Ашмяны – балетмайстарам за 165 або ў Астравец кіроўцам – за 1350

У Астраўцы патрэбныя цырульнікі, паштальёны, кіроўцы, электрагазазваршчыкі, аператары сувязі на пошту. Самы нізкі з прапанаваных заробкаў – ад 330. Столькі прапануюць і інжынеру-механіку, і паштальёну. Найбольш атрымае электрагазазваршчык, што будзе працаваць у Варнянах – ад 1350 рублёў.

Некалькі дзясяткаў прапаноў ёсць па Ашмянах. Шмат творчых спецыялістаў трэба ў мясцовы Цэнтр культуры – мастацкі кіраўнік, мастак-пастаноўшчык, два хармайстры, рэжысёр, метадыст, гукааператар, загадчык клуба, дырыжор, балетмайстар. Заробкі ад 165 (на паўстаўкі) да 330.

Больш за 1 100 атрымае спецыяліст, які прыйдзе на пасаду начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Ашмянскага райвыканкама.

У гаспадаркі раёна патрэбныя аператары машыннага даення, інжынер па ахове працы, трактарыст, ветэрынарны фельчар. Заробкі – ад 450 да 600 рублёў.

У мясцовую ветэрынарную станцыю клічуць доктара-радыёлага. Прапануюць – ад 500 рублёў. Туды ж – лабаранта за 450.

### Смаргонь: Ад 330 – і вартаўніку, і ветэрынару-гінеколагу

Нямала прапаноў і па Смаргоні. Санітарка ў ЦРБ – за 330. Прыблізна такія ж заробкі прапануюць майстру па манікюры, вартаўніку, прыбіральшчыкам, ветэрынарнаму доктару-гінеколагу.

На прадпрыемствы Смаргоні патрэбныя машыніст крана (ад 700 рублёў), слесар-электрамантажнік і эканаміст (ад 500), электрагазазваршчык (ад 470).

Навуковага супрацоўніка ў мясцовы музей запрашаюць за заробак ад 330 рублёў. Столькі ж прапануюць педагогам-псіхолагам, якія прыйдуць у школу №1 і ў Цэнтр карэкцыйнага навучання.

Самыя вялікія заробкі сярод прапанаваных: у сінхроннага перакладчыка – ад 800 рублёў і кіроўцы ў прадпрымальніка – ад 900.

Вакансій па Валожыншчыне на сайце няма.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## 19 мая ў Маладзечне пройдзе бясплатны кірмаш

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ахвотных далучыцца запрашаюць у нядзелю, 19 мая.

Бясплатны кірмаш, або Free Market адбудзецца ад 12 да 16 гадзін па адрасе: Маладзечна, вуліца Валынца, 12-б. Тут размяшчаецца адукацыйны цэнтра «Адкрытая прастора».

Рэчы будуць прымаць ад 10:30 да 14:30.

Бясплатны кірмаш ладзяць для змянення погляду на прыроду рэчаў і эканамічных адносінаў у сучасным свеце.

**Асноўная ідэя падобных кірмашоў – скараціць спажыванне, з розумам ставіцца да карыстання рэчамі, беражліва ставіцца да рэсурсаў планеты, працягнуць жыццё добрых рэчаў, аддаючы іншаму гаспадару.**

Рэчы добрай якасці, якія вам не трэба, варта не выкідаць і не трымаць без справы, а аддаць на бясплатным кірмашы, каб імі карыстаўся іншы.

### Правілы для ўдзельнікаў кірмашу:

1. Кожны можа прынесці рэчы, якія хоча аддаць іншым. Такімі рэчамі могуць быць: адзенне і аксесуары, акрамя бялізны, – жаночыя, мужчынскія і дзіцячыя. Калі ласка, не прыносьце рэчы з дэфектамі, застарэлымі плямамі, нерабочымі маланкамі, дзіркамі.

Абутак падыдзе толькі не стаптаны, з набойкамі, вусцілкамі і матузкамі, чысты і ўнутры, і звонку. Вы прыносіце рэчы для іншых, каму, як і вам, непрыемна будзе карыстацца сапсаванымі рэчамі.

Калі ласка, прыносьце адзенне ў памытым, пачышчаным выглядзе.

**Любы можа забраць нешта, што яму спатрэбіцца, нават калі сам не прынёс нічога.**

У межах мерапрыемства будзе лекцыя «Экалагічныя парады на кожны дзень» і майстар-клас па сартаванні смецця.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Фота kubidubi.ru

Цацкі з дрэва больш карысныя і для здароўя, і для экалогіі.

# Як зменшыць колькасць хіміі вакол сябе

**Нам падабаецца карыстацца выгодамі прагрэсу. Але ўсё развіваецца так імкліва, што часам складана зразумець, ці бяспечныя тэхналогіі, якія чакаюць нас на паліцах крамаў.**

Кожны год прымяненне хімічных рэчываў у свеце ўзрастае ў сярэднім на 40 тысяч тон. Нароўні з маланебяспечнымі і бяспечнымі хімічнымі рэчывамі ў абарот трапляюць хімічныя рэчывы з выяўленым негатыўным уплывам на арганізм чалавека. У тым ліку на самую складаную і шматфункцыянальную сістэму – эндакрынную.

**Такія рэчывы называюць эндакрыннымі дызраптарамі або разбуральнікамі. Цяпер іх вядома больш за 1000.**

У іх ліку дыяксіны, акрыламіды, гербіцыды, пестыцыды, цяжкія металы, фітаэстрагены, стымулятары росту жывёл і раслін, некаторыя лекі.

Калі гэтыя рэчывы назапашваюцца ў арганізме, яны могуць выклікаць бясплоддзе, рак малочнай залозы, рак прастаты, захворванні нервовай сістэмы, дэфіцыт увагі і гіперактыўнасць у дзяцей, захворванні шчытападобнай залозы, дыябет і атлусценне. Прычым малыя або вельмі малыя дозы ці канцэнтрацыі могуць дзейнічаць больш разбуральным чынам, чым высокія. А ўплыў цэлага кактэйлю такіх рэчываў і зусім цяжка прадказаць.

Сустрэць іх можна літаральна паўсюль: у бытавых хімікатах, мыйных і касметычных сродках, вырабах з пластыку, пестыцыдах, аўтамабільных выхлапах, ва ўсіх відах прамыслова зробленага мяса, садавіне, гароднінe і ў малочных прадуктах. Слаба абароненыя да ўздзеяння эндакрынных разбуральнікаў дзеці і цяжарныя жанчыны.

Сёння ў нашай краіне няма выразнага нацыянальнага заканадаўчага інструмента па рэгуляванні звароту эндакрынных разбуральнікаў у таварах і прадуктах. Але ў гэтым кірунку вядуць навуковыя даследаванні. Меры, неабходныя для прыняцця рашэнняў па прадухіленні ўплыву гэтых небяспечных хімічных рэчываў на наша здароўе, не прымусяць сябе доўга чакаць.

А пакуль для памяншэння кантакту з эндакрыннымі разбуральнікамі паспрабуйце выконваць наступныя рэкамендацыі.

### Як зменшыць уплыў эндакрынных разбуральнікаў

Ешце ў асноўным свежыя, сырыя цэльныя прадукты.

**Купляючы апрацаваныя прадукты, аддавайце перавагу шкляной упакоўцы, пазбягаючы поліэтыленавай плёнкі, бляшанак, упакоўкі з пластыку.**

Тое ж тычыцца захоўвання і разагравання прадуктаў дома. Працяглы кантакт прадуктаў і высокая тэмпература павялічваюць вылучэнне хімічных рэчываў з пластыку.

1. Для дзіцячага харчавання старайцеся выкарыстоўваць толькі шкляныя бутэлечкі.

2. Будзьце асцярожныя з касавымі чэкамі. Большасць відаў тэрмапаперы, якая выкарыстоўваецца ў чэках, змяшчае дызраптары. Калі патрымаць гэту паперу ўсяго пяць секунд, шкодныя рэчывы трапляюць на скуру чалавека. Калі пальцы мокрыя або ў тлушчы, то іх колькасць павялічваецца ў 10 разоў.

3. Шукайце прадукты, якія маюць сертыфікат аб вытворчасці арганічнай прадукцыі без ГМА. Гэта адносіцца да ўсяго – ад прадуктаў і тавараў асабістай гігіены да будаўнічых матэрыялаў, дывановых пакрыццяў, фарбаў, дзіцячых тавараў, мэблі, матрацаў і шмат чаго іншага. Робячы рамонт у доме, звярніце ўвагу на «зялёныя» альтэрнатывы без таксінаў.

4. Выбірайце цацкі, зробленыя з натуральных матэрыялаў, пазбягайце танных пластыкавых цацак, асабліва тых, якія дзеці могуць смактаць або жаваць.

5. Выкарыстоўвайце натуральныя чысцячыя сродкі або рыхтуйце іх самі.

6. Перайдзіце на арганічныя туалетныя прыналежнасці, уключаючы шампунь, зубную пасту, дэзадаранты і касметыку.

7. Замяніце вінілавую фіранку для душа на тканінавую.

8. Шукайце тавары без аддушак. У штучных аддушках могуць утрымлівацца сотні, нават тысячы, патэнцыйна таксічных хімічных рэчываў. Па той жа прычыне старайцеся не карыстацца кандыцыянерамі для бялізны, антыстатыкамі, асвяжальнікамі паветра і араматычнымі свечкамі.

9. Праверце водаправодную ваду на забруджванні і пры неабходнасці фільтруйце яе. Па магчымасці, замяніце водаправодныя ПВХ-трубы на альтэрнатыўныя.

10. Пазбягайце адзення, мэблі і дываноў з пакрыццямі, якія адштурхоўваюць гразь і ваду.

11. Замяніце патэльні і каструлі з антыпрыгарным пакрыццём на керамічныя або шкляныя.

12. Замест ужывання рыбы, выгадаванай у рыбгаспадарках, якая часцяком забруджаная небяспечнымі хімічнымі рэчывамі, аддайце перавагу дадаткам з якасна вычышчаным рыбіным тлушчам. Калі ўсё-такі гаварыць пра ўжыванне морапрадуктаў, то ў дробнай рыбе, такой як сардзіны, анчоусы і селядзец, менш забруджвальных рэчываў і больш амега-3 тлушчаў.

Жывучы ў сучасным свеце, не забывайце пра іншы, малапрывабны бок навукова-тэхнічнага прагрэсу. Беражыце сябе!

**Кацярына ЯРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст**
**аддзялення гігіены працы**
**Маладзечанскага**
**міжраённага цэнтра**
**гігіены і эпідэміялогіі.**




Перадсмяротнае SMS-паведамленне.

# «Таня, прабач. Я больш так не магу. Мае даўгі аддаваць не трэба»

## Гісторыя сям'і, дзе муж застрэліўся з-за крэдытаў

**Да двухпавярховага цаглянага дома сям'і С. у Баярах пад Мядзелам вядзе сцежка з двума ільвамі па баках. Гаспадыня Таццяна сядзіць на кухні, дзе паміж сучасных шафак сушацца кілбасы. Колькі мы размаўляем, яна цярэбіць заручальны пярсцёнак.**

МЯДЗЕЛ

Яе муж Уладзімір застрэліўся два гады таму, і жанчына толькі цяпер пачала прыходзіць у сябе пасля самага страшнага перыяду жыцця.

### Многа працавалі, многа трацілі

Таццяна і Уладзімір пазнаёміліся 20 год таму. Яркага кахання ў іх і не было, але хутка вырашылі пажаніцца. Ён быў гараджанінам, але пагадзіўся пераехаць у родную вёску жонкі. Першыя дзесяць год яны шчыравалі на будоўлі дома, гадавалі сына і дачку. Зараблялі на ўласным магазіне, які адкрылі ў Баярах.

Гэта быў вельмі патрэбны і прыбытковы бізнес. Але пасля першага дзесяцігоддзя 2000-х давялося зачыніцца: стала невыносна вытрымліваць бясконцыя праверкі.

Пасля Уладзімір уладкаваўся на прадпрыемства. Ён быў вельмі раўнівы і не хацеў, каб жонка працавала не пры ім. Жанчына ж спрабавала вырывацца хаця б на частковы рабочы дзень на мясцовую ферму. Пасля яна вырашыла, што было б здорава завесці карову і зарабляць на ёй. Уладзімір доўга быў супраць. Тады Таццяна вырашыла яго падмануць – сказала, што купіць бычка, а сама прывяла цялушку. Калі яна пачала даваць малако, вяртаць яе было позна. Гаспадары хутка зразумелі, што ў Таццяны гэта справа ідзе і дае добрыя грошы.

Аднак асабістае жыццё складвалася няпроста. Уладзімір, які моцна раўнаваў жонку, сябе не лічыў абавязаным трымацца вернасці. Таццяна ведала пра яго здрады. Аднойчы ён сышоў да палюбоўніцы, але Таццяна вярнула яго ў сям'ю, даказаўшы, якая тая жанчына шлюндра.

«Для іншых ён быў добры, душа кампаніі, вясёлы, шустры. Але ў сям'і – дэспат, мы ўсе хадзілі па струнцы».

> **За 19 год сумеснага жыцця ён разбіў ушчэнт 13 машын. Мы многа зараблялі і многа трацілі.**

Правы кіроўцы ў яго былі толькі два з паловай гады. Пазбаўлялі дакументаў за перавышэнне хуткасці, нецвярозае кіраванне. За Талуццю стаяў знак з абмежаваннем хуткасці «40», ён там умудрыўся ехаць на 120».

Няпростыя адносіны з мужам давялі Таццяну да псіхічнага расстройства, дэпрэсія прывяла да дыягназу «біпалярнае афектыўнае расстройства». Яна некалькі разоў ляжала ў бальніцы.

> **Ніхто з суседзяў і знаёмых ніколі не папракнуў на тэму псіхічнай хваробы. Яны бачылі мужа з боку і здзіўляліся, як яны разам жылі.**

Дактарам жанчына казала, што лячыць трэба было яго, а яна ж з ім проста жыла.

### Як выдалі крэдыты псіхічна хвораму чалавеку?

Справы пацыху ішлі на лад. Таццяна купіла больш кароў. Здавала малако заводу, за гэта мела па 1800 рублёў у месяц. Яшчэ каля 1500 рублёў за тое, што рабіла масла, тварог і прадавала малако ў слоіках людзям. Штомесячны даход жыхаркі Баяраў быў не менш за 3000 рублёў.

Уладзімір задумаў запусціць новы праект. Накупіць добрай бульбы, вырасціць і прадаць па ўдалай цане. На тое, каб купіць усё для справы, спатрэбіліся грошы. Уладзімір вырашыў браць крэдыты ў банку і афармляць іх на жонку. Жанчына ў той перыяд была ў прыгнечаным псіхічным стане. Выглядала гэта так: яны ўдваіх ідуць у банк, яна з паперы чытае, што напісаў муж, выдаюць крэдыт, ён забірае картку з грашыма.

> **«Я паехала і ўзяла крэдыт на 10 тысяч долараў, тады гэта было 100 мільёнаў рублёў. Нават не помню, пад які працэнт. І дакументы не захаваліся – не ведаю, куды муж іх дзеў. Грошы ў руках не трымала».**

11 лістапада 2014 года разам паехалі па першы крэдыт у Паставы ад «Дэльта банка». У Мядзеле тады прыватных банкаў не было. Пакет дакументаў, падрыхтаваны мужам, жанчына проста паклала на стол.

«Няўжо тыя, хто выдаваў крэдыты, не бачылі мой стан? Вочы шкляныя, я была ніякая, а побач ён стаіць. 21 лістапада ён вязе мяне ўжо ў Мінск браць другі крэдыт на 100 мільёнаў у «Альфа банку». З сабой узяла тую самую паперу, на якой муж напісаў, што гаварыць. Тут таксама забраў картку, і грошай я не ўбачыла».

### Правалілі бізнес з-за абвалу рубля

На ўсе грошы з крэдытаў Уладзімір закупіў элітны гатунак бульбы. Прывёз дзве фуры па 20 тон. 19 снежня 2014 года падскочыла валюта, супраць Расіі ўвялі санкцыі, Пуцін раздае расіянам зямлю дарма. У 2015 годзе расіяне самі садзяць шмат бульбы. Таццяна з мужам




Спіс Уладзіміра з даўгамі.

садзяць і сваю дарагую элітную бульбу. А збыць яе не могуць – рынак бульбай перанасычаны, цэны ніжэй няма куды.

Крэдыты выплачваць няма чым. Муж бярэ яшчэ крэдыты, каб крэдытамі гасіць крэдыты. Бульбу ўсё ж збылі, але за капейкі. У жніўні жанчына зноў трапіла ў псіхбальніцу, 30 ці 31 выпісалі. А на наступны дзень Уладзімір разбіўся на машыне, быў нецвярозы за рулём.

> **Пасля 21 дзень у коме, зламаныя рэбры, жонка вучыла яго хадзіць нанова. Пасля гэтага на нейкі час паміж парай пачалі наладжвацца адносіны.**

Хаця суразмоўца не выключае, што гэта была першая спроба самазабойства.

«Калі ён вярнуўся дамоў, я ўбачыла, што чалавек ужо не той. Я бачыла, што ў яго тое ж, што і ў мяне – дэпрэсія. Гэта заўсёды відаць па чалавеку. Спрабавала дапамагчы. Але некаторыя сваякі казалі, што я іх ганьблю сваёй псіхушкай. Яму казала: «Вова, кладзіся, табе дапамогуць». Але з-за такога стаўлення, што за такія праблемы павінна быць сорамна, ён не дазваляў сабе звяртацца па дапамогу».

Пасля той аварыі Уладзімір незаконна купіў ружжо. З вясны 2016 года родныя бачылі, што за ім трэба прыглядаць. Таццяна з сынам па чарзе пасвілі кароў. Калі была яе чарга, званіла сыну, каб той паглядзеў, дзе тата.

«Прасіла дапамогі ў некаторых сваякоў, адказвалі, што грошай не маюць.

> **Тлумачу, што грошы мы ўжо не выратуем, з ім проста трэба паразмаўляць. Казала, ён жа нешта з сабой зробіць. 11 верасня апошні раз прасіла паразмаўляць, а 17 муж застрэліўся».**

## Як муж стаў злачынцам

Перад трагедыяй, пацяху прадавалі кароў, каб перакрыць даўгі. Павінны былі выплачваць 53 мільёны ў месяц, 12 з іх – за дом, які заклалі. Заставалася дзесяць кароў. Прадавалі па карове на месяц і плацілі лізінг за дом. Дом выратавалі, ён перайшоў сыну.

Уладзімір не знайшоў іншага рашэння, як разабрацца з даўгамі, акрамя злачынства. Пазнаёміўся з мужчынам з Расіі, якому абяцаў прадаць быкоў. Неяк заманіў у лес, накіраваў на яго ружжо, забраў грошы, каля 40 тысяч (400 мільёнаў недэмінаванымі). Той выйшаў з лесу і паехаў у міліцыю. За гэты час муж паспеў раздаць даўгі, што браў у знаёмых. Прыехаў дамоў, абняў дачку.

16 верасня ва Уладзіміра быў дзень нараджэння. 17, у суботу, збіраліся святкаваць. Таццяна размарозіла мяса на шашлыкі. Пайшла адпачыць, каб пасля накрыць стол. Яна ляжала ў дрымоце, ён падышоў, пастаяў над жонкай. Развітваўся з усімі. Пасля пайшоў у гараж і застрэліўся з таго ружжа, што купіў год таму.

Перадсмяротная запіска была ў чарнавіках паведамленняў у тэлефоне. «Таня, прабач. Я больш так не магу. Мае даўгі аддаваць не трэба. Дзяцей трымай, сама трымайс». Апошняй літары не хапала, гэта на яго вельмі непадобна. Напэўна, чуў, што пад'язджае міліцыя па заяве абрабаванага чалавека, і не паспеў дапісаць.

## Ён застрэліўся дарма

«Усё, што ён зрабіў, – дарма. Грошы, якія скраў, вярнулі гаспадару. Усё было бессэнсоўна. Ён звар'яцеў ад таго, што не спраўляўся з тым, што здарылася. Перад трагедыяй на мужа ўсе так моцна пачалі ціснуць, яго давялі. І мяне ад гэтых званкоў з банка ён спрабаваў абараніць. І ўсё роўна на мне засталіся два крэдыты па дзесяць тысяч долараў».

Адзін крэдыт «Дэльта банку» ўдалося закрыць. Сам крэдыт мы бралі на 10000 (100 мільёнаў недэмінаванымі), а на 2000 была страхоўка. Хоць Таццяна сядзела ў банку ніякая, але настаяла, што без страхоўкі нічога браць не будзе. Праз паўгода пасля таго, як атрымалі крэдыт, на тэлефон прыйшло паведамленне, што калі пагасяць цягам месяца суму, эквівалентную дзвюм тысячам долараў, то застанецца выгадная рэшта пазыкі.

Калі раней жанчына плаціла па 600 рублёў выплаты па крэдыце штомесяц, то цяпер сума зменшыцца да 275 рублёў. Гэтыя дзве тысячы долараў выплацілі. І па гэтым крэдыце заставалася каля трох тысяч доўгу. Гісторыя з крэдытам ад «Альфа банка» горшая. Там засталося каля 7000.

«З-за нявыплаты жанчыне пачалі пагражаць, што пададуць у суд. Змагацца не было сіл, сказала «Падавайце». Муж застрэліўся 17 верасня, пахавалі ў аўторак. А ў нядзелю да мяне ўжо прыехалі са Следчага камітэта. Я сядзела тут на кухні ніякая, а ў мяне бралі паказанні».

> **Таццяне пагражаў артыкул «Махлярства». «Але якое тут махлярства, я мела чым плаціць. Я зараблялa на малацэ. Каб упэўніцца, дастаткова ўзяць усе дадзеныя з масласырзавода. Яны пытаюцца, а ці магу гэтыя звесткі ўзяць я. Дык як я магу гэта ўзяць, не я ж следчы!»**

На адваката грошай не было, жанчына абараняла сябе сама. Адзін са сваякоў працаваў вартаўніком, а афармленая праца была на яе. Справа развівалася ў накірунку, што Таццяна, маючы мінімальны заробак вартаўніка, узяла грошы, хоць ведала, што аплаціць не зможа. Пры гэтым дакументы для крэдытаў рыхтаваў муж. Таму жанчыне пагражала другая частка артыкула «Махлярства, таму што нібы здзейсненае групай асоб. За гэта прадугледжанае пазбаўленне свабоды ад васьмі да дзесяці год.

«Калі прыязджалі па паказанні, я проста з усім пагаджалася. Тлумачыла пра свой стан, што зарабляла. Але сіл даказваць нешта ў мяне проста не было. На апошнім допыце ў мяне была сястра Наташа з мужам. Я сяджу, як звычайна, з усім пагаджаюся. Сястра слухае, пасля кажа: «Вы што, зусім здурнелі?! У яе ж даход ёсць!». Прывяла да прытомнасці.

> **Пасля мяне выклікалі ў Следчы камітэт, гутарылі шэсць гадзін. У выніку я сказала, што на судзе скажу, што мела даход і шмат разоў ляжала ў бальніцы.**

Мяне адправілі ў Мінск на экспертызу на месяц, дзе прызналі не ў свядомасці на момант злачынства, прайшла лячэнне. Справа «Дэльта банка» супраць мяне закрытая, выплачваць я ім больш нічога не павінна. А «Альфа банк» назіраў, чым справа закончыцца. З імі працягваю ваявацъ. Прашу падаць у суд, яны не падаюць, бо ведаюць, што закончыцца, як і «Дэльта банкам». Гэты ж крэдыт таксама застрахаваны, чаму яны не карыстаюцца страхоўкай, не ведаю».

Па гэтым крэдыце застаецца вісець доўг у 7000.

## Пасля трагедыі

«Цяпер мой стан лепшы. Зарабляю гаспадаркай, але працую нашмат менш. Тры каты, вялікі сабака, купіла цялушку, сем свіней, куры, качкі. Раблю рамонт, вельмі марудна ідзе. Калю кабана, раблю сала, кілбасы. Машына пакуль толькі легкавая. На хлеб зарабляю.

> **Пасля пахавання мужа сын са мной не размаўляў, не прыязджаў да мяне ў бальніцу, унёс нумар у чорны спіс тэлефона.**

Ён вінаваціў у тым, што столькі цярпела, што мы з мужам не разводзіліся і давялі сітуацыю да такога. Тлумачыла, чаму я не разводзілася, мяне не зразумелі. Пасля новага года ў мяне быў проста край. Ад безвыходнасці звярнулася да жанчыны, якая займаецца магіяй, і грошы яна з мяне не бярэ.

> **Не ведаю, ці супадзенне, але пасля гэтага сын пачаў са мной размаўляць. Упершыню па душах пагаварылі з дачкой. Я пачала адчуваць задавальненне ад жыцця і адзіноты, пачала ўтульна адчуваць сябе ў доме.**

Мне ставілі дыягназ біпалярнае афектыўнае расстройства – калі чалавека штурхае ад моцна прыпаднятага да моцна ўпадніцкага стану. Знаёмыя казалі, што мець 36 кароў на аднаго чалавека немагчыма. Я адказвала, што мне хапае сіл. А пасля з-за таблетак не было сіл жыць. Але думаю, я выкарабкаюся, можа, праз гады тры.

Хачу, каб мая гісторыя дапамагла камусьці не зрабіць такіх памылак, як у мяне. Трымайцеся падалей ад крэдытаў. Дарэчы, некаторыя трапляюцца на вудачку растэрмiноўкі – а гэта той самы крэдыт, афармлены ў банку. Будзьце пільныя і клапаціцеся пра блізкіх».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

# 3200 кіламетраў за 1600 рублёў

## Як байкер з Мядзельшчыны падарожнічаў за мяжой

**Матацыкліст-падарожнік Сяргей Латушкін жыве ў курортным пасёлку Нарач больш за дзесяць гадоў. Ураджэнец Крупскага раёна трапіў туды па размеркаванні пасля ўніверсітэта. Працуе ў Нацыянальным парку «Нарачанскі» інжынерам-рыбаводам. Але праца не замінае яму падарожнічаць на матацыкле і пазнаваць свет.**

МЯДЗЕЛ

11 мая Сяргей прыехаў з чарговай паездкі. Яна доўжылася тыдзень. З хлопцамі ездзілі сябры: **Сяргей Захарыч** з Паставаў, мінчане **Анатоль Кароль** і **Дзмітры Сумін**.

Байкеры стартавалі з Мінска. Спачатку паехалі ў Вільню, потым наведалі Талін, на пароме дабраліся да Швецыі, завіталі на Аланскія астравы і ў Готланд, былі ў Латвіі.

**Прабег – 2200 кіламетраў на матацыкле і каля 1000 на пароме.**

### Браў у дарогу 2800 рублёў

Вільня і Каўнас байкеру спадабаліся атмасферай, славутасцямі, замкамі, а вось Аланскія астравы не ўразілі. Кажа, там такія ж дамы, як у Беларусі, толькі на астравах. Хаця фіёрды, пячоры і абаронныя фарты запомніліся.

**– У Стакгольме шмат музеяў і старых будынкаў, глядзіш і атрымліваеш асалоду, быццам трапляеш у мінулае краіны. Але больш за ўсё захапіў востраў Готланд.**

У верхнім горадзе будынкі адрозніваюцца адзін ад аднаго, кожны вельмі атмасферны. Класны партовы горад Вентспілс у Латвіі. Сустракае партовымі докамі, але ўнутры ёсць старыя дворыкі і брукаванка.

**Падарожнік разлічваў у суткі на 240 рублёў. Кажа, атрымлівалася і больш, і менш, але ў 1600 уклаўся.**

Хаця браў у дарогу каля 2800, ведаў, што транспарт можа зламацца.

### Дыягностыка на СТА – 200 рублёў

І хаця аварый не было, паломкі ў дарозе пачаліся яшчэ ў Беларусі. У аднаго з хлопцаў раз'ядналіся клемы генератара – сабралі. На Аланскіх астравах у другога генератар наўпрост згарэў. Да Швецыі мяняліся акумулятарамі, каб сябар даехаў. Матацыкл прадыягнаставалі на СТА ўжо ў краіне, гэта каштавала каля 200 рублёў. Генератар набыць не змаглі, узялі акумулятар і зарадку – прыкладна 350 рублёў.

**У самога Сяргея пацякла вілка ў матацыкле, працёрся тармазным шлангам маятнік. У чацвертага хлопца ў транспарце быў стары акумулятар – месцамі матацыкл даводзілася штурхаць.**

Большасць начовак байкеры «забілі» за пару месяцаў да паездкі на адным з сайтаў. Напрыклад, хостэл каштаваў каля 110 рублёў, бунгала – 45-50.

### Пяць разоў карысталіся паромам

Віза ў Сяргея ўжо была, а вось страхоўкі рабіў. На сябе каштавала каля 50 рублёў, на матацыкл – прыкладна столькі ж.

**Падчас падарожжа было пяць перасадак на паром. Самы танны з іх каштаваў 190 рублёў, самы дарагі – 280. Такая цана, бо на некаторыя з паромаў хлопцы грузілі матацыклы.**

Прадукты байкеры ў асноўным набывалі ў гіпермаркетах. Па словах Сяргея, цэны там больш адэкватныя, чым на запраўках і паромах.



Фота забяспечанае Сяргеем ЛАТУШКІНЫМ.

Праз некалькі хвілін падарожнікі сядуць на паром, каб наведаць Готланд. На фота Сяргей Латушкін.

Напрыклад, паўлітра вады ў Швецыі – тры пяцьдзясят, у гіпермаркеце – на рубель танней. У дзень трацілі на ежу прыкладна 130 рублёў.

– З сабой браў вяленае мяса, бастурму, добра, што на мяжы нічога не выкінулі.

**Пераважна ў дарозе елі на запраўках – бургеры, бутэрброды, хот-догі... Па праўдзе кажучы, цяпер я гэту б брыдоту не еў, – прызнаецца Сяргей.**

– Цэны за мяжой моцна адрозніваюцца ад нашых. У нас літр бензіну 95-га на той час каштаваў 1 рубель 60 капеек, у Літве, Латвіі і Эстоніі – тры рублі. У Швецыі – больш за чатыры.

### Паўтарае англійскую перад паездкамі

Падарожнічае байкер ад 2010 года. Першыя пяць год ездзіў па Беларусі, калі-нікалі рабіў і велапаходы. Апошнім часам на матацыкле ездзіў па Славеніі, Славакіі, Венгрыі, Аўстрыі, Харватыі, Італіі, Іспаніі, Францыі, Бельгіі, Германіі, Нідэрландах, Чэхіі, Украіне, Азербайджане, Грузіі, Карэліі, Расіі.

– Маршруты і знаёмыя прапаноўваюць, і па карце глядзім, абмяркоўваем. Адзін разлічвае бюджэт, іншы – дарогу, славутасці. Часам на байк-злёты ездзім, – расказвае Сяргей. – Моўнага бар'еру падчас гэтай паездкі амаль не было.

**Калі хаця б мінімальна ведаеш размоўную англійскую, адчыненыя ўсе дзверы.**

А мы ўчатырох размаўлялі больш-менш, маглі спытацца маршрут, мясціны. Плюс я, калі ведаю, што можа быць моўны бар'ер, уключаю спецыяльную праграму на камп'ютары і паўтараю мову.

У наступны раз байкер плануе паехаць на байк-фестываль у Калінінград, завітаўшы ў Палангу, Клайпеду і на Куршскую касу.

**Таццяна КАСЬЯН.**

**Што трэба ўзяць у падарожжа на матацыкле:**

1. Калі падарожнічаеце на поўнач – абавязкова цёплыя рэчы і тэрмабялізну. Зменнае адзенне.
2. Дажджавік.
3. Набор ключоў, змазку, антыфрыз, аліву, тэстэр.
4. Асабістыя рэчы: паста, шчотка, дэзадарант, мыла.
5. «Кулінарны набор»: талерка, кубак, нож.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Папрок, незадавальненне.
4. Непрыемны душэўны стан, выкліканы немагчымасцю здзейсніць свае надзеі, жаданні.
7. Месца, храм, дзе ў Старажытнай Грэцыі, Рыме і краінах старажытнага Усходу жрацы прарочылі ад імя бога.
8. Фарбы, якія разбаўляюцца вадой, а таксама жывапіс гэтымі фарбамі.
11. Хімічны элемент, метал чырванаватага колеру, вязкі і коўкі.
12. Сярод рыб векі ёсць толькі ў гэтага віду.
13. Змененая адчувальнасць ці рэактыўнасць арганізма на паўторнае дзеянне некаторых рэчываў.
14. Вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, у задачу якой уваходзіць развіццё навук або мастацтваў.
19. Абсалютна, поўнасцю.
22. Недахоп грошай, тавараў, выяўлены пры праверцы магазіна, установы.
24. Народны духавы музычны інструмент у выглядзе драўлянай або чарацянай трубкі з круглымі дзірачкамі.
27. На сцягу Алімпійскіх гульняў размешчаны пяць кольцаў. Кожнае сімвалізуе кантынент, прадстаўнікі якога ўдзельнічаюць у гульнях. Які колер сімвалізуе Еўропу?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Тое, што і млынар.
2. Індывідуальны сродак хуткага перамяшчэння.
5. Нияркая лямпачка, якая запальваецца нанач.
6. Род літаратурных твораў, напісаных у форме дыялогу без аўтарскай мовы і прызначаных для пастаноўкі на сцэне.
9. Металічная пласцінка прамавугольнай, круглай або іншай формы з пэўным адбіткам, якую носяць на грудзях як прыналежнасць да той ці іншай арганізацыі, катэгорыі людзей, у памяць.
10. Той, хто дае парады.
11. Адміністрацыйны орган у СССР для аховы грамадскага парадку і бяспекі.
15. Першая птушка, якую адамашніў чалавек.
16. Тонкае валакно, якое ў выглядзе адростка адыходзіць ад галаўнога і спіннога мозга і з'яўляецца састаўной часткай разгалінаванай сістэмы, здольнай служыць сродкам кіравання дзейнасцю арганізма.
17. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
18. Адрасат граматы Дзмітрыя Альгердавіча, у якой упершыню згадваецца Маладзечна.
20. Паўднёвая травяністая расліна, карэнішча якой нагадвае чалавечую фігуру.
21. У Грэнландыі колькасць гэтага металу ў снягах павялічылася ў пяць разоў за апошнія сто гадоў. Уплыў яго робіць чалавека больш агрэсіўным.
23. Узор дэталі, прадмета, з якога робіцца форма для адліўкі.
25. Сталіца Марока.
26. Надпіс на паштовым адпраўленні, у якім указваецца месцазнаходжанне атрымальніка.

## Адказы на крыжаванку з №19

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Кропля. 2. Маркота. 3. Кажамяка. 4. Мост. 6. Волаты. 7. Мінус. 9. Чэмпіён. 12. Пудра. 13. Лілея. 14. Зорка.17. Квазі. 19. Пашча. 21. Прага. 22. Пасьянс. 23. Бровы. 24. Квас. 25. Кошт. 27. Менск. 28. Зруб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Кляўіца. 5. Прытча. 8. Муляж. 10. Калега. 11. Мыліца. 14. Зычны. 15. Дунай. 16. Пераканаць. 18. Радашкавічы. 20. Калыска. 26. Шлем. 28. Зеўс. 30. Бай.



## ГАРАСКОП 17-23 МАЯ

**АВЕН.** Замрыце і нічога не распачынайце. Уявіце сабе, што вы вада, якая замерзла. Хай так, затое ў вас ёсць час для таго, каб усё абдумаць. Ведайце, бывае, зусім не шкодна прааналізаваць і адпусціць падзеі, што адбыліся з вамі за нейкі перыяд.

**ЦЯЛЕЦ.** Калі вы адзінокія, то знаёмства будзе мець прыватны характар, калі адчуваеце сябе ўшчэмленымі ў бізнесе – то сустрэнеце «патрэбнага» чалавека. Не сумнявайцеся ў сваёй удачы, і яна прыйдзе да вас.

**БЛІЗНЯТЫ.** У вас шмат талентаў і здольнасцяў, для раскрыцця якіх трэба прыкладаць намаганні. Гэта той самы час, калі здаровы эгаізм неабходны, каб больш трывала замацавацца ў жыцці.

**РАК.** На тое, што адбываецца, варта глядзець па-філасофску. Усё гэта не больш чым несусветная мітусня, але, тым не менш, вы можаце ўзяць нешта карыснае для сябе, проста назіраючы за развіццём падзей.

**ЛЕЎ.** Вам трэба закінуць усе справы і звесці да мінімуму ўсю актыўнасць, вам трэба адпачыць. Пашанцавала тым, хто ў адпачынку.

**ДЗЕВА.** Эмацыйны фон дзён злёгку пафарбаваны ў неспрыяльныя тоны, і гэта адбіваецца на вашых адносінах з блізкімі – раздражненне, крыўды вы несяце «ў дом», нічога не пакідаючы за парогам. Добра, што вас разумеюць. Але беражыце тых, каго любіце.

**ШАЛІ.** Запішыцеся на якія-небудзь курсы ці самастойна пачніце наведваць розныя семінары. Так вы зможаце абзавесціся новымі знаёмымі і аднадумцамі.

**СКАРПІЁН.** Вам трэба змяніць сябе, бо, змяніўшы светапогляд, вы на ўсё зможаце паглядзець пад іншым вуглом. Гэта пойдзе вам на карысць. А калі будзеце ўважліва слухаць і чуць навакольных, то зможаце дасягнуць згоды і паразумення нават з самымі нязгодлівымі людзьмі.

**СТРАЛЕЦ.** Вы спрабуеце ўсе пытанні і праблемы вырашаць пры дапамозе лагічнага мыслення. І ў вас нядрэнна атрымоўваецца праліваць хады, але цяпер лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Халодны разлік можа толькі пагоршыць адносіны з навакольнымі, а то і зусім вас заблытаць. Вам трэба навучыцца адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне.

**КАЗЯРОГ.** Усё ў вашых руках – хоць вы і самі гэта ведаеце. А ўсе дні – толькі чарговае пацвярджэнне таму. Вас чакае дамашняя ўтульнасць і стабілізацыя ва ўсіх сферах.

**ВАДАЛЕЙ.** Магчымы новы раман, але толькі калі вы шукаеце сур'ёзных адносін. Не выкарыстоўвайце ўдачу ў карысліва мэтах ці ў азартных гульнях – яна можа лёгка вас пакінуць.

**РЫБЫ.** Дапамагайце тым, хто просіць вас. Такі падыход можа здавацца абсалютна бессэнсоўным, але менавіта дапамагаючы іншым, вы зможаце здабыць мір і шчасце, гармонію ва ўласнай душы. Дапамагаючы іншым, будзьце сапраўды добрыя, не ўзгадвайце былых крыўдаў і не судзіце людзей. Вам гэта залічыцца.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | 8 | | | | 7 | |
| 6 | | | | | 7 | | 8 | 5 |
| | | | | 6 | 5 | 1 | | 3 |
| | | 7 | 2 | | 6 | | | |
| | | | 9 | 3 | 4 | | | |
| | 8 | | | 7 | 1 | | | |
| 3 | 2 | | | | | 5 | | 9 |
| | 5 | 4 | | 9 | | | | |
| | | | | | 2 | | 4 | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

**Андрэй Мікульчык з Маладзечна пачаў займацца музыкай у 16 год, але ўжо паспеў выступіць з операй у Італіі. І стаў адным з тых, хто развівае оперу ў Маладзечна. Чаму опера – гэта важная частка культуры і для беларусаў? І як знайсці смеласць ісці сваёй дарогай да поспеху? Натхняльную гутарку чытайце праз тыдзень.**

## 18 мая, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 4-5 м/с




Усход 5.03
Захад 21.14
Даўжыня дня 16.11

Усход 20.35
Захад 5.21
Поўня

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -1,7°С у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +28,4°С у 1979 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14 мм у 2014 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## «Рэгіянальная газета» – найлепшы адпачынак пасля працы на лецішчы!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

# Ільянец запаліў факел II Еўрапейскіх гульняў у Брэсце

ВІЛЕЙКА

**12 мая з Брэста рушыла «Полымя міру» II Еўрапейскіх гульняў.**

Сярод тых, хто запальваў факел, быў ураджэнец Ільі студэнт-другакурснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры **Ягор Буркевіч**.

Мы звязаліся з мамай Ягора, **Людмілай**, якая жыве ў Ільі.

– Лічу, што запальванне гэтага факела – вельмі важная падзея для Беларусі. Як маме, мне прыемна, што на цырымонію абралі майго сына. Ведаю, што туды бралі лепшых. Значыць, я добра яго выхавала.

Ягор – спартсмен, добра вучыцца ва ўніверсітэце. Па словах мамы, вельмі задаволены, што абраў гэту ВНУ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Zarya.by.

Ягор (справа) перадаў запалены факел алімпійскай чэмпіёнцы Юліі Несцярэнцы.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці прасілі вы калі-небудзь Кнігу заўваг і прапаноў?



**Алеся Дзянісава, інспектар мытнай службы:**
– У майстэрні сапсавалі дарагую шаўковую сукенку. У адказ пачула абурэнні: ледзь што, кнігу давай. Але далі, у 10-дзённы тэрмін пісьмова папрасілі прабачэння. І яшчэ ў ДАІ інспектар адмовіўся ў рабочы час аглядаць аўтамабіль, бо абед пачынаўся праз пяць хвілін.



**Арцём Неруш, майстар:**
– Не так часта наведваю розныя ўстановы, але калі ўсё ж выбіраюся, то іду з настроем добра правесці час, а не лаяцца па дробязях. Калі нешта не задавальняе ў абслугоўванні або ў чым яшчэ, працей туды больш не хадзіць. Ад дрэннага запісу лягчэй не стане.



**Яраслаў Жук, кіроўца:**
– Прасіў па прычыне няякаснага мыцця аўтамабіля. У адказ пачуў «Рабіце, што хочаце». І далі мне дублікат кнігі, не завераны.



**Ганна Карнеева, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Ніколі не прасіла. Стараюся ветліва размаўляць з працаўнікамі гандлю, грамадскага харчавання і паслуг, бо разумею іх працу. Таксама ўсё можа быць з-за таго, што мне вельмі рэдка трапляюцца негатыўныя людзі. А з астатнімі можна гутарыць.



**Аляксей Маеўскі, інжынер па ахове працы:**
– Спакойны чалавек – не прамяне, і сфера абслугоўвання ў Беларусі, асабліва ў маленькіх гарадах, заўсёды кульгала. Але не пішу скаргі, у нас гэта не працуе. Знаёмыя вараццаў сферы абслугоўвання, з іх слоў, кніга – фармальнасць. Каб яна давала нейкі эфект – хутчэй за ўсё, карыстаўся б.



**Алеся Алёкса, у дэкрэтным адпачынку:**
– І не раз. Кнігу давалі па першым патрабаванні. У асноўным, пісала падзякі. Але пісала і скаргі ва УУС Гродзенскага выканкама, і ў МУС РБ на супрацоўніка міліцыі. Было ў маім жыцці такое. Баец за справядлівасць, лічу, што ўсё павінна быць выразна, правільна і законна.



**Валеры Цэйко, кіроўца:**
– Прасіў у аўтакраме, дзе прадаюць акумулятары. Прынёс акумулятар па гарантыі, яго не хацелі браць. Калі я папрасіў Кнігу заўваг і прапаноў, мне замянілі акумулятар.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№20 (1255) 17.05.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 749. Падпісана ў друк у 9.00 16.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.